


# наша Слова

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 23 (287) 6 чэрвеня 1996 г. Кошт — 1000 рублёў




*Падрабязнасці*
**САВЕТ ПА СПРАВАХ РЭЛІГІЙ... ЯКАЯ Ў ІМ ПАТРЭБА?** Стар. 3

*Згадкі*
**ПАЧАТКОВАЯ ШКОЛА 1920 ГОДА Ў ДАКУМЕНТАХ** Стар. 4

**ЯН ЧАЧОТ: ВЫТОКІ АЙЧЫННАГА МОВАЗНАЎСТВА** Стар. 4

*Здароўе*
**СЭЛЕН, НЕБЯСПЕЧНЫ І ЧАРАДЗЕЙНЫ** Стар. 5

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## Маладой беларускай маці

Ты — маці, ты свайму дзіцяці
Не для пакут жыццё дала —
Для долі-шчасця ў роднай хаце,
У царстве праўды і святла.
Каб гэтым правам заручыцца,
Каб промень веры не пагас —
Аддай дзіця сваё вучыцца
У беларускі клас!

Хай з самай першай парты школьнай
Распазнаваць яно пачне
У лёсе Бацькаўшчыны вольнай
Свой лёс — як вечнасць у вясне.
Не дапусці, каб цень злачынца
Зацьміў душы яго алмаз:
Аддай дзіця сваё вучыцца
У беларускі клас!

Хай змалку прыйдзе да высновы,
Прызнанай людствам нездарма:
Мілей, чым гукі роднай мовы —
На свеце радасці няма.
Каб не запозна далучыцца
Да векавых яе акрас —
Аддай дзіця сваё вучыцца
У беларускі клас!

Узнагароду будзеш, маці,
Ты атрымоўваць кожны дзень:
Любоў і ўдзячнасць — ад дзіцяці,
Хвалу і славу — ад людзей.
Каб ёй давеку ганарыцца
І стрэць спакойна судны час —
Аддай дзіця сваё вучыцца
У беларускі клас!
*1996.*

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СЯМЁН ШАРЭЦКІ НАВЕДАЎ ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЕРЫКІ.** З гэтай нагоды адбылася прэс-канферэнцыя, на якой Сямён Георгіевіч сказаў: «Амерыканскія палітыкі ў першую чаргу пыталіся ў беларусаў, ці страцілі ўжо мы сваю незалежнасць і суверэнітэт. Яны выказвалі меркаванне, што заключэнне дагавора з Расіяй вядзе да механічнага аб'яднання дзвюх дзяржаў у адну. Але калі яны прачыталі тэкст дагавора і, у прыватнасці, яго 15-ты артыкул, то сказалі, што яны не супраць лакальнай інтэграцыі, але выступаюць за тое, каб не парушаліся пры гэтым правы нашай дзяржавы на суверэнітэт». Што ж, нам застаецца спадзявацца на 15-ты артыкул. Праўда, што ў ім напісана — мала хто ведае.

○ ***АДБЫЛОСЯ ЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.*** *Парламентарыі прынялі пастанову адносна правядзення дадатковых паўторных выбараў восенню гэтага года: яны павінны адбыцца не пазней канца лістапада.*

○ **У ЗАЛЕ ПАСЯДЖЭННЯЎ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ ПРАЙШОЎ ПЕРШЫ КАНГРЭС ДЗЕЯЧАЎ КУЛЬТУРЫ ДЗЯРЖАЎ-УДЗЕЛЬНІЦ СНД.** Беларуская творчая інтэлігенцыя была прадстаўлена літаральна некалькімі асобамі, што, безумоўна, выклікала здзіўленне ў прыехаўшых гасцей, якія спадзяваліся «з першых вуснаў» пачуць, што адбываецца сёння ў беларускай культуры. На Кангрэсе можна было даведацца, што на патрэбы культуры ў Туркменістане дзяржавай выдзяляецца 7 працэнтаў ад нацыянальнага бюджэту. У Беларусі — усяго 1,4 працэнта. Кангрэс дзеячаў культуры завяршыўся. Але пытанняў у яго ўдзельнікаў не стала менш.

○ ***У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ БЕЛАРУСІ ПРАЙШЛА ЧАРГОВАЯ СПРАВАЗДАЧНАЯ ВЫСТАЎКА КНІГ.*** *Яна была прысвечана вынікам работы дзяржаўных і недзяржаўных выдавецтваў за чатыры месяцы сёлетняга года. Так, за гэты час выйшла ў свет 1143 назвы кніг, што на 151 назву меней за адпаведны перыяд мінулага года. Дзяржаўнымі выдавецтвамі выпушчана 284 назвы кніг, што на 131 меней чым было раней. У рамках выстаўкі адбылася прэзентацыя першага тома 18-томнай Беларускай Энцыклапедыі.*

○ **СПОЎНІЛАСЯ ПЯЦЬ ГАДОЎ, ЯК АДРАДЗІЛАСЯ «НАША НІВА».** Віншуючы супрацоўнікаў газеты з юбілеем, жадаем і надалей поспехаў і імпэту ў справе адраджэння беларушчыны.

○ ***У КІЁСКАХ «БЕЛСАЮЗДРУКУ» З'ЯВІЎСЯ ПЕРШЫ НУМАР НОВАЙ СТАЛІЧНАЙ «ГАЗЕТЫ».*** *Заснаваў яе журналіст Міхась Расолька. «Газета» як бы падхапіла эстафету ад «Добрага вечара», які ў сувязі з ліквідацыяй рэдакцыі спыніў сваё існаванне. Трэба спадзявацца, што «Газета», як і «Добры вечар», не будзе цурацца беларускай мовы.*

○ **ЗАГАДАМ МІНІСТРА КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ А.САСНОЎСКАГА ЗАЦВЕРДЖАНЫ СКЛАД САВЕТА ПА МУЗЫЧНЫМ І ТЭАТРАЛЬНЫМ МАСТАЦТВЕ.** Савет створаны для каардынацыі дзейнасці Міністэрства культуры з творчымі саюзамі ды іншымі грамадскімі арганізацыямі, накіраванай на развіццё прафесійнага музычнага і тэатральнага мастацтва нашай краіны. Узначаліў новую структуру першы намеснік міністра культуры У.Рылатка.

○ ***АГУЛЬНЫ ДОЎГ БЕЛАРУСІ ЗА ЭНЕРГАНОСЬБІТЫ НА 23 ТРАЎНЯ ГЭТАГА ГОДА СКЛАЎ*** *6 трыльёнаў 393 мільярды 702 мільёны беларускіх рублёў. З пачатку года доўг павялічыўся на 1 трыльён 512 мільярдаў 364 мільёны рублёў.*

# Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык сустрэліся з сябрамі і журналістамі



Як вядома, арыштаваныя ў Менску пасля дэманстрацыі «Чарнобыльскі шлях» і змешчаныя ў следчы ізалятар лідэры БНФ прафесар Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык аб'явілі галадоўку пратэсту, якую працягвалі да свайго вызвалення (Сіўчык быў вызвалены 17 траўня пасля 20 сутак галадоўкі, Хадыка — 21 траўня пасля 23 сутак галадоўкі). Па выхадзе на волю былі змешчаны ў тэрапеўтычнае аддзяленне 3-й клінічнай бальніцы г.Менска. 22 траўня ў памяшканні клінікі адбылася іх сардэчная сустрэча — з кветкамі і «са слязамі на вачах» — са сваякамі, сябрамі, грамадскімі дзеячамі і журналістамі. У гутарцы прынялі ўдзел Лявон Баршчэўскі, Станіслаў Гусак, Уладзімір Анцулевіч, Вера Чуйко (ад БНФ), фінская журналістка Пілвіке Коусе, сакратар амбасады ЗША ў Беларусі Энтэні Годфры, адвакат Надзея Дударава і іншыя. Сп. Хадыка і Сіўчык падзяліліся з прысутнымі сваімі турэмнымі ўражаннямі, расказалі пра нялюдскія ўмовы ўтрымання зняволеных у камерах следчага ізалятара, з чаго бачна, што сістэма ГУЛАГа ў нашай дзяржаве жыве і дзейнічае. Пра вялікую ролю ў вызваленні двух апазіцыйных дзеячаў, якую адыгралі пратэсты грамадскасці, міжнародных арганізацый, вядомых палітыкаў і дзеячаў (В.Быкава, Ч.Мілаша, С.Лема і інш.) паведамлялі сродкі масавай інфармацыі. Вядома, што наладжвалася штодзённае пікетаванне СІЗО, збіраліся подпісы грамадзян і дэпутатаў Вярхоўнага Савета РБ у абарону арыштаваных, а ў розных частках свету, асабліва ў Польшчы, Летуве і на Украіне праходзілі акцыі салідарнасці і маніфестацыі пратэсту з патрабаваннем спыніць палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі. Нават Барыс Ельцын вымушаны быў умяшацца і даць «урок дэмакратыі» беларускаму Прэзідэнту. Развітваючыся з гасцямі, Юрый Хадыка сказаў: «Дарагія сябры, я таксама вельмі шчаслівы, таму што наша адзінства, узаемная падтрымка, давер і агульныя намаганні даюць плён і яны дадуць яшчэ большай справе плён. Я спадзяюся, што і далей мы будзем змагацца разам».

Дадам, што дзень вызвалення з-пад арышту для Юрыя Віктаравіча супаў з сямейным святам: трыццаціпяцігоддзем яго шчаслівага шлюбу з Валянцінай Кірылаўнай, якая, як і жонка В.Сіўчыка, усе гэтыя цяжкія дні змагалася за яго жыццё.

**Ірына КРЭНЬ.**

**На здымках: Юрый Хадыка і Валянціна Кірылаўна; Ганна Сіўчык, Вячаслаў Сіўчык і Надзея Дударава.**

**Фота Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**



РЭХА

# А школа была беларускай...

**Галоўнаму рэдактару.**

**У газеце «Наша слова» № 19 (283) ад 8 мая 1996 года ў артыкуле «Супрацьстаяць магільшчыкам могуць толькі жывыя і рашучыя» В.Палсцюка, сябра ТБШ, былі прыведзены наступныя факты: «Калі дырэктар школы пусціла справу на самацёк і не выяўляе ўласнай пазіцыі, тады справу пераводу класаў на расійскую мову навучання бяруць у свае рукі шавіністычна настроеныя бацькі і настаўнікі. Так адбылося ў беларускай школе № 184, навакольле якой метадычна абвешвалася лістоўкамі, якія заклікалі да пераводу навучання на расійскую мову, што ў значнай меры і было зроблена», якія не адпавядаюць сапраўднасці. Па-першае, аўтар артыкула В.Палсцюк не мае права даваць ацэнку дзейнасці дырэктара СШ № 184, так як не сустрэўся са мною і не выявіў маёй пазіцыі з прычыны выбару мовы навучання ў школе. Па-другое, лічу, што заява В.Палсцюка пра тое, што ў мікрараёне школы вывешваліся лістоўкі, якія прызывалі да пераводу навучання на рускую мову, паклёп.**

**У выніку таго, што ў Вашай газеце былі апублікаваны неправераныя факты і школе нанесены маральны ўрон, патрабую абвяржэння.**

**Дырэктар СШ № 184 г.Менска ЗЛОБІЧ Галіна Людвігаўна.**

**Вось што сказаў карэспандэнту пры сустрэчы Валерый ПАЛСЦЮК, сябра Таварыства беларускай школы:**

— Улетку 1995 г. я сустрэўся з дырэктарам СШ № 184, якраз пасля рэферэндуму. У мікраёне Уручча-1, 2, 3, дзе я жыву, знаходзяцца тры школы № 190, 177 і 184. Мы прайшлі па іх, каб высветліць, якія сітуацыі з беларускімі класамі ў гэтых школах, бо яны маюць статус беларускіх. У СШ № 190 ніякіх змен не адбылося, школа засталася цалкам беларускай. У школе № 177 дырэктар выказалася за беларускае навучанне і абяцала агітаваць бацькоў за тое, каб яны аддалі сваіх дзяцей у беларускія класы. Мы прыйшлі ў 184-ю школу, пагаварылі з дырэктарам, у мяне да яе ніякіх прэтэнзій няма. Яна сказала, што ёй вельмі цяжка, школа прэстыжная, з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы, ніякіх спецыяльных захадаў рабіць не будзе, няхай самі бацькі выбіраюць мову навучання. Дырэктар гаварыла, што ёй шкада той работы, якая была праведзена па беларусізацыі за апошнія гады. І вось вынікі: у 1994 г. беларускамоўных першакласнікаў было 260 чалавек, з іх засталося 178, трэцякласнікаў было больш за 300, а засталося 120, мы бачым, як карэлірэуцца пазіцыя дырэктара школы з вынікамі, куды падзеліся вучні? У мікрараёне некім былі раскленены ўлёткі з заклікам аддаваць дзяцей у расійскія класы, ёсць сведкі. Але самае прыкрае тое, што большасць другіх і трэціх класаў пераведзена на расійскую мову.

**Вось што сказала карэспандэнту пры сустрэчы дырэктар СШ № 184 Г.Л.ЗЛОБІЧ.**

**— Галіна Людвігаўна, да рэферэндуму ў вашай школе першыя, другія і трэція класы былі цалкам беларускамоўныя?**

— Так. І ніколі з боку бацькоў не паўставала пытанне, на якой мове навучаць дзяцей. Калі школе надалі статус беларускай, усе класы былі на беларускай мове. Але пасля рэферэндуму, калі бацькам было дадзена права выбару мовы, яны пайшлі да мяне.

**— І многа было такіх зваротаў?**

— Зваротаў было шмат, але ўсё мінулае лета я, як магла, пераконвала іх у тым, што гэтага рабіць нельга. Мая ўласная пазіцыя наконт гэтага: дзяржаўнай мовай і мовай навучання павінна быць беларуская, бо мы жывём у Беларусі. Я сама на рэферэндуме галасавала за дзяржаўнасць беларускай мовы.

**— Але вынікі рэферэндуму не адмянілі Закон аб мовах, ды і Вярхоўны Савет яшчэ да гэтага часу іх не ратыфікаваў.**

— Закон не адмянілі, але ж далі права выбару і бацькі мне казалі, чаму ў мінулым годзе вы гэтага права нас пазбавілі? На той час была іншая палітычная сітуацыя. Некаторыя бацькі вельмі настойліва патрабавалі перавесці дзяцей на расійскую мову. Для мяне законам з'яўляецца тая палітыка, якую праводзіць наш Прэзідэнт.

**— Вам давалі загады з РАНА ці з Міністэрства адукацыі?**

— Ніякіх загадаў не было, не казалі, пераводзіць класы ці не, калі бацькам далі такое права, яны яго рэалізавалі. З майго боку і з боку маіх намеснікаў праводзілася работа, каб гэтага пераводу не было. Мая задача як кіраўніка сёння стварыць умовы для навучання дзяцей як на расійскай, так і на беларускай мовах.

**— Колькі у вас зараз засталося беларускіх класаў і колькі стала расійскіх?**

— У нас два першыя беларускамоўныя класы і шэсць расійскамоўных, пяць беларускіх другіх класаў і шэсць расійскіх, пяць беларускіх і шэсць расійскіх трэціх класаў, у чацвёртых класах — тры расійскія, астатнія — беларускія, пяты беларускамоўны — 17 чалавек, шосты беларускамоўны — 15 чалавек, два сёмыя — 30 чалавек і восьмы — 11 чалавек.

**— І тыя дзеці, якія адвучыліся па некалькі год па-беларуску, пераводзіліся на расійскую мову...**

— Так. Па жаданні бацькоў.

**— А вы ім тлумачылі ўсю небяспеку гэтага кроку?**

— Змагалася, як магла, даходзіла ледзь не да інфаркту, але з некаторымі бацькамі нічога не змагла зрабіць. Але хачу яшчэ раз падкрэсліць, што мы гатовыя даваць дзецям адукацыю па-беларуску, у нас ёсць база, падручнікі, падрыхтаваныя настаўнікі-прадметнікі. Настаўнікам было забаронена агітаваць бацькоў за расійскую мову навучання.

**— Як вы лічыце, колькі будзе першых беларускіх класаў у наступным навучальным годзе?**

— Зараз цяжка сказаць, бо цяпер ідзе тэсціраванне будучых першакласнікаў і сумоўе з іх бацькамі, якія будуць вынікі, пабачым.

Напрыканцы хачу сказаць, што заява сп.Палсцюка вельмі тэндэнцыйная, паколькі ні ў 95-м, ні ў 96-м годзе ён са мной не сустракаўся і даваць ацэнку маёй дзейнасці не мае права.

*Што можна сказаць, разгледзеўшы больш пільна сітуацыю? Да сумнавядомага рэферэндуму сярэдняя школа № 184 мела статус цалкам беларускамоўнай, дзеці ўжо па некалькі гадоў адвучыліся па-беларуску, і тут па іхняй свядомасці і псіхіцы нанеслі такі магутны ўдар. Можна, канешне, абвінавачваць ва ўсім дэзарыентаваных бацькоў, якія купіліся на татальную, масіраваную антыбеларускую прапаганду. Але гэта толькі адзін бок медаля. З практыкі вядома, што надзвычай «прынцыповых» бацькоў, якія ні ў якім выпадку не хочуць вучыць сваіх дзяцей на беларускай мове, лічаныя адзінкі, але яны, на жаль, найбольш актыўныя. Большасць жа глядзіць на тое, як паводзіць сябе настаўнікі і дырэктар. Няма ніякіх падстаў сумнявацца ў словах дырэктара 184-й школы і ў яе прыхільнасці да беларушчыны, але цяперашнія лічбы беларускіх і расійскіх пачатковых класаў у школе гавораць больш красамоўна за любыя словы. Відавочна, што спрацаваў спрадвечны страх беларуса перад начальствам. Калі мы ўсё ж у сваіх дзеяннях пачнём кіравацца законам, а не воляй чыноўніка, няхай нават і такога высокага рангу, як Прэзідэнт! Беларускі моўны асяродак у школе разбураны. Хаця трэба адзначыць, што сітуацыя параўнальна з іншымі падобнымі школамі яшчэ не самая жахлівая. У некаторых з іх увогуле не засталося ніводнага беларускага класа. Але гэта суцяшае мала. Што ж, кожны аказаўся здольны ў сённяшніх умовах да канца адстойваць свае перакананні.*

*Тым не меней беларусы памалу пачынаюць усведамляць вялізную каштоўнасць для выжывання народа сваёй мовы і культуры. Становіцца непрэстыжным паказваць сваю абыякавасць, а не толькі варожасць да ўсяго беларускага.*

*Зараз у школах пачынаецца падрыхтоўка да набору дзяцей у першыя класы на наступны навучальны год. Хочацца спадзявацца, што дырэктары і настаўнікі ўлічаць недапрацоўкі мінулага і праведуць адпаведную работу з бацькамі першакласнікаў, каб беларуская школа паступова аднавіла страчаныя пазіцыі, адчуваючы сваю велізарную адказнасць за будучыню народа, новыя пакаленні беларусаў.*

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# Даведнік «Бізнес-Беларусь, 1996»

Выйшла другое выданне агульнарэспубліканскага тэлефоннага даведніка «Бізнес-Беларусь, 1996». Першае выданне было станоўча ацэнена спажыўцамі і дзелавымі коламі краіны. Другое выданне дапоўненае, зроблены ўдакладненні, змешчана новая рэкламная інфармацыя, цікавае прыгожае афармленне.

Словам, сумеснае прадпрыемства «Белфакт», якое ўзначальвае сп. Алан Суві, зноў даказала сваю высокую прафесійнасць. На жаль, і на гэты раз фірма не адважылася карыстацца ў падрыхтоўцы даведніка ў нейкай меры беларускай мовай. Добра яшчэ хоць назвы беларускамоўных газет, у тым ліку і нашай, не надрукавалі па-расійску.

А варта было б адвесці, прыкладам «калонку дабрачыннасці» і даць у колеры загалоўкі беларускіх газет. Даведніку гэта не пашкодзіла б, а наадварот — надало арыгінальны каларыт.

**К.А.**

Культурнае жыццё

# Салодкая атрута

Мы спакваля вяртаем сабе імёны славутых продкаў, пераважна герояў і барацьбітоў. Вартыя нашай увагі таксама іншыя асобы. Адна з іх — Барбара з роду Радзівілаў прывабіла ўжо пісьменнікаў і паэтаў, а цяпер і кінематаграфістаў. Віктар Дашук, вядомы наш кінадакументаліст, стварыў паводле ўласнага сцэнара мастацка-публіцыстычны фільм «Салодкая атрута кахання». У галоўных ролях занятыя вядомы бард і артыст Віктар Шалкевіч (Жыгімонт Аўгуст) ды Яна Русакевіч (Барбара Радзівілішка), студэнтка акцёрскага аддзялення Беларускай акадэміі мастацтваў. *Прэм'ера* адбылася 23 траўня ў Менскім доме ветэранаў. Яе ладзіў Клуб творчай моладзі «На ростанях». Гледачы прынялі твор Дашука вельмі прыхільна ды адзначалі высокую маральную чысціню фільма, прадракалі яму поспех у гледачоў і на кінафестывалях.

На жаль, «Салодкая атрута кахання» не будзе паказана на кінафестывалі «Залаты віцязь», бо і сам Віктар Дашук адмовіўся ўдзельнічаць у гэтым мерапрыемстве.

**П.П.**



24 траўня ў Менску ўрачыста адзначалі Дзень славянскай пісьмовасці і культуры. Адзін з эпізодаў свята каля царквішча на Менскім замчышчы сфатаграфаваў Аляксандр Талочка, БелТА.

Вандроўкі

# Да крыніц Івана Мележа

Студэнцкія гады, кажуць, самыя лепшыя ў жыцці. Бадай, з гэтым нельга не пагадзіцца. Таму, калі выпадае магчымасць выбрацца ўсёй грамадой за межы роднага універсітэта, мы з радасцю яе выкарыстоўваем. На гэты раз дарога вяла нас, студэнтаў-філолагаў, на Палессе, на радзіму Івана Паўлавіча Мележа.

Дзіўна было раптам апынуцца ў тых самых мясцінах, дзе жыў і пісаў свае творы выдатны пісьменнік, і паспрабаваць далучыцца да вытокаў яго таленту. Усе з замiраннем сэрца чакалі сустрэчы з той самай грушай-дзічкай, ля якой кахаліся Васіль і Ганна. Хацелася пабачыць грэблю, у якую было ўкладзена столькі працы. І вострaў сярод балота, так прыгожа апеты Мележам.

Таму першы прыпынак — вёска Курані. Але наша радасць і захапленне ад сустрэчы з гэтай мясцінай мелі вельмі горкі прысмак. Курані напаткаў лёс многіх іншых вёсак і мястэчак беларускага ды ўкраінскага Палесся: яны апынуліся ў зоне адсялення пасля чарнобыльскай аварыі. І цяпер тут, дзе раней кіпела і бурліла жыццё, засталіся напаўразбураныя хаты ды некалькі старых, якія корпаюцца на сваіх градах. І няўцям ім, што зямля гэта, якая ўсё жыццё іх выхавала, гадавала, людзям нічога ўжо, апроч пакутлівай смерці, яшчэ многія дзесяцігоддзі даць не можа...

А наступны наш прыпынак — Глінішчы, дзе мы з асаблівым хваляваннем услухоўваліся ў гаворку тутэйшых жыхароў, міжволі параўноўваючы яе з той, што ўвасоблена ў мележаўскіх раманах. Наведалі студэнты і дом-музей І.П.Мележа, створаны рукамі аднавяскоўцаў, школу, дзе вучыўся пісьменнік. Прызнацца, з асаблівым нейкім пачуццём мы ўваходзілі ў «святая святых» — пакойчык Івана Паўлавіча, дзе ён пісаў свае неўміручыя творы пра палешукоў. Успаміналіся радкі Івана Мележа:

«Пішу без лямпы
за сваім сталом,
а будзе так навекі:
што мы — і палешукі,
і чалавекі».

**Вольга ЧЭКАН,**
**студэнтка 3 курса філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны.**

РЭХА

# Мова як інструмент імперскасці

На старонках «Независимой газеты» з'явіліся абшырныя тэзісы плана аднаўлення маскоўскай супердзяржавы камандай Барыса Ельцына пад загалоўкам «Ці адновіцца саюз? Будучыня постсавецкай прасторы». Сярод аўтараў дакумента прэзідэнт расійскага Саюза прадпрымальнікаў Аркадзь Вольскі, сябра прэзідэнцкай рады Сяргей Караганаў, дэпутаты Дзяржаўнай думы Аляксей Арбатаў, Ірына Хакамада, Сяргей Шахрай.

Уім, у прыватнасці, гаворыцца: «Распад СССР абарочваецца змяненнем сусветнага балансу сілаў. Станоўчае тут суседнічае з адмоўным. З аднаго боку, адсунулася пагроза сусветнай, у тым ліку і ядзернай вайны, з другога — небяспечна пагрозлівай стала колькасць лакальных войнаў і ўзброеных канфліктаў. Місія Расіі дзейнічаць у інтарэсах Расіі. Яна не мусіць чакаць, пакуль новыя дзяржавы будуць выкарыстаны іншым блокам і стануць буферамі на яе межах. Яна павінна пераканаць колішніх саюзнікаў у перавагах свайго лідэрства. Выкарыстаць свой шанц Расія, на думку аналітыкаў, зможа ў бліжэйшыя 10 гадоў, пакуль на постсавецкай прасторы захаваецца старая геаэканамічная памяць, а тым больш такі магутны фактар, як прысутнасць расійскай мовы.

Захаванне і замацаванне расійскай мовы і культуры ў сумежных дзяржавах аднесена да сферы важных інтарэсаў Расіі».

**Беларуская служба Радыё «Свабода».**
26.05.96.

*Падрабязнасці*

# Савет па справах рэлігіі паміж дзяржавай і Царквой

*Многім святарам і вернікам, асабліва старэйшага пакалення, добра вядомая дзейнасць Савета па справах рэлігій і розных упаўнаважаных на месцах у савецкі час. Менавіта ад гэтых «байцоў ідэалагічнага фронту» залежала дазволіць ці не святару спраўляць свае абавязкі, адкрыць новы храм, ці даць дазвол на паступленне ў семінарыю. Што ж уяўляе сабой Савет па справах рэлігій сёння? Пра гэта размова з яго старшынём Аляксеем Жыльскім.*

**— Аляксей Іванавіч, некаторым здавалася, што са знікненнем апекі кампартыі над Царквой знікне і патрэба ў Савеце па справах рэлігій. Але ён застаўся. А якія цяпер у яго функцыі?**

— Савет па справах рэлігій, створаны ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Вы, напэўна, ведаеце, што «Закон па свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый у Рэспубліцы Беларусь» быў прыняты Вярхоўным Саветам у студзені 1992 г. Гэты закон і вызначае функцыі Савета. У чым іх сутнасць? Калі гаварыць у шырокім плане, Савет разглядае і вырашае пытанні, якія паўстаюць паміж дзяржавай і Царквой. Стварае банк дадзеных рэлігійных арганізацый краіны. Садзейнічае гэтым арганізацыям у дасягненні дамоўленасцяў з дзяржаўнымі органамі, а таксама ўмацаванню ўзаемапавагі і цярпімасці паміж канфесіямі. Дае мясцовым выканаўчым органам метадычныя рэкамендацыі і кансультацыі па пытаннях выканання і прымянення заканадаўства па свабодзе веравызнання. Забяспечвае правядзенне рэлігіязнаўчай экспертызы пры ўдзеле прадстаўнікоў рэлігійных арганізацый і спецыялістаў, рэгіструе статуты і палажэнні рэлігійных аб'яднанняў, цэнтраў, рэлігійных брацтваў, кляштараў, духоўных навучальных устаноў, рэпрэзентуе ўрад у яго адносінах з рэлігійнымі арганізацыямі. Прыходзіцца займацца перадачай культавых будынкаў. Мы практычна кожны месяц атрымліваем заявы той ці іншай канфесіі з просьбамі дапамагчы вярнуць нейкі будынак.

**— І Ваш Савет ім дапамагае?**

— Безумоўна. Мы перадусім працуем з тымі ўладальнікамі, у якіх знаходзяцца адпаведныя будынкі, каб знайсці шлях для вырашэння гэтых пытанняў. Нам прыходзіцца прымаць шмат грамадзян. Толькі за мінулы год было прынята больш за 150 чалавек. Гэта пры тым, што ў апараце Савета працуе ўсяго пяць чалавек і работы хапае, бо ў краіне існуе больш за 2 тысячы рэлігійных арганізацый. Калі раней было восем асноўных канфесій, то зарэгістравана цяпер больш за 24, а яшчэ існуе цэлы шэраг арганізацый, зарэгістраваных як грамадскія, але, па сутнасці, яны з'яўляюцца рэлігійнымі. Паколькі шмат арганізацый, шмат і праблем.

**— Ці існуе зараз нейкая канцэпцыя дзяржаўнай палітыкі ў рэлігійнай галіне?**

— Дзяржаўная палітыка ў сферы адносін дзяржавы і Царквы рэгламентуецца Канстытуцыяй і заканадаўствам. Беларусь фарміруецца як прававая дзяржава, і адпаведна яе палітыка ў рэлігійнай галіне базіруецца на законе. У адпаведнасці з Канстытуцыяй наша дзяржава мае свецкі характар і не ўмешваецца ў справы рэлігійных арганізацый, калі тое не супярэчыць закону. Улада не ўскладае на рэлігійныя арганізацыі дзяржаўныя функцыі, не фінансуе іхнюю дзейнасць, хаця дапамагае ў рэстаўрацыі храмаў, якія з'яўляюцца помнікамі архітэктуры. Наша дзяржава не праводзіць і палітыку дзяржаўнага атэізму. Яе палітыка накіравана на падтрымку цывілізаваных адносінаў з Царквой, захаванне верацярпімасці. Гэта замацавана ў роўнасці веруючых і няверуючых людзей перад законам, а таксама роўнасці перад ім усіх канфесій. Многія зараз гавораць аб прывілеяваным становішчы Праваслаўнай Царквы. Але трэба адрозніваць становішча Царквы ў дзяржаве і ў грамадстве. І канешне, вага ў грамадстве якой-небудзь канфесіі, якая налічвае паўтара дзесятка чалавек, і Праваслаўнай Царквы, вернікі якой складаюць большасць насельніцтва, несувымерная.

**— Вы гаворыце, што большасць насельніцтва ў нас праваслаўнае, а па якім крытэрыі гэта вызначаецца? Бо, наколькі я ведаю, адмысловай статыстыкі ў гэтай галіне не вялося?**

— Сапраўды, у нас няма статыстычных дадзеных, колькі вернікаў налічвае тая альбо іншая канфесія. І законам такі ўлік не прадугледжаны. Мы мяркуем па тых сацыялагічных апытаннях, якія праводзіліся Інстытутам сацыялогіі ў 1994 г. Гэтыя дадзеныя паказваюць, што за апошнія восем гадоў колькасць вернікаў у краіне павялічылася ўдвая. Прыкладна ад 43 працэнтаў да 50 працэнтаў апытаных лічаць сябе вернікамі. З іх каля 80 працэнтаў лічаць сябе праваслаўнымі, 15—18 — каталікамі, рэшту складаюць пратэстанты і іншыя канфесіі.

**— Пад час аднаго са сваіх выступаў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка акрэсліў сваё веравызнанне як праваслаўны атэіст. Што на вашую думку, гэта азначае?**

— Думаю, гэта пытанне не па адрасе. Мне цяжка сказаць, што ўкладае ў гэтае паняцце Аляксандр Рыгоравіч. Магчыма, што ў дзяцінстве яго хрысцілі ў праваслаўнай царкве, а выхаванне ў савецкі час было атэістычным.

**— Якім чынам складаюцца адносіны Вашага Савета з кіраўнікамі розных канфесій?**

— Мы досыць часта сустракаемся з уладыкам Філарэтам, кардыналам Казімірам Свёнтакам і біскупам Аляксандрам Кашкевічам. На гэтых сустрэчах мы разглядаем усе паўстаючыя пытанні. Увогуле, я б сказаў, у нас досыць нармальныя адносіны і ўзаемаразуменне.

**— Скажыце, што робіцца Саветам па абароне нашага грамадства ад уплыву рознага роду псеўдарэлігійных сектаў?**

— Праблема гэта вельмі складаная. Справа ў тым, што закон 1992 г. прадастаўляў вельмі шырокія правы рэлігійным арганізацыям. Правы місіянерскай дзейнасці, па сутнасці, нічым не рэгуляваліся. Правы дзяржаўнага органа па справах рэлігіі былі зведзены да чыста экспертных, статыстычных, ніякіх кантрольных функцый ён не выконваў ды, па сутнасці, і зараз не выконвае. Пад час такіх пераломных перыядаў, узмоцненых эканамічным і духоўным крызісамі, і паўстаюць псеўдарэлігійныя секты, якія нічога агульнага з рэлігіяй не маюць. Пры нашым удзеле камісія Вярхоўнага Савета распрацавала змены і дапаўненні ў Закон Рэспублікі Беларусь аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацый. Артыкулы Закона больш дакладна фармулююць гэтыя змены, якія раней мелі размыты характар, рэгламентуюць парадак місіянерскай дзейнасці і г.д. На падставе гэтага Кабінету Міністраў было даручана распрацаваць Палажэнне аб парадку запрашэння і дзейнасці замежных святароў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, якое было прынята 3 ліпеня 1995 г. Яно дакладна рэгламентуе, хто можа быць запрошаны і для якой дзейнасці. Гэта ўжо пэўная перашкода на шляху пранікнення ў нашу краіну розных дэструктыўных сектаў. Карыстаючыся несвядомасцю нашых людзей, асабліва моладзі, сюды і імкнуліся «Белае брацтва», «Аум Сенрыкё», «Багародзічны цэнтр» ды іншыя. Зараз па даручэнні адміністрацыі Прэзідэнта міністэрствамі і ведамствамі распрацаваны план мерапрыемстваў па абароне насельніцтва ад уздзеяння дэструктыўных сектаў. У адпаведнасці з гэтым планам створаны пастаянна дзейнічаючыя экспертныя камісіі пры Савеце па справах рэлігій. Туды ўвайшлі навукоўцы-рэлігіязнаўцы, філосафы, гісторыкі, юрысты. У задачу гэтай камісіі ўваходзіць правядзенне экспертызы веравучэння, статута і дзейнасці новых рэлігійных плыняў. Вельмі важна высветліць прычыны ўзнікнення гэтых арганізацый. Нам вядома, што існуюць групы «Аум Сенрыкё» у Менску і Берасці, група «Багародзічнага цэнтра» ў Менску, і вельмі важна стварыць прававы механізм спынення іх дэструктыўнай дзейнасці.

**— Але часта даводзілася чуць, што гэтае ліпеньскае палажэнне ў першую чаргу ўдарыла па каталіцкіх місіянерах, якіх ніяк не залічыш да прадстаўнікоў таталітарных сектаў.**

— Я не магу з гэтым пагадзіцца, хаця вось такую пастаноўку пытання чую не толькі ад вас. Мэта гэтага палажэння — абарона ад місіянераў дэструктыўных плыняў. А па-другое, для таго, каб замежны грамадзянін мог у нас працаваць, ён павінен атрымаць на гэта дазвол. А так ён мог прыехаць па турыстычнай пуцёўцы ці па прыватным запрашэнні і займацца рэлігійнай дзейнасцю. А гэта ж уздзеянне на вялікія групы людзей. Прыватнае запрашэнне не дае права займацца прафесійнай дзейнасцю. Таму я не сказаў бы, што ад палажэння пацярпелі ў большай ступені каталіцкія місіянеры. Закон адзіны для ўсіх канфесій.

**— Нядаўна ў нашай краіне з'явілася першая парафія Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Ці прайшла яна рэгістрацыю ў вашым Савеце?**

— Савет не займаецца рэгістрацыяй асобных парафій і абшчын. Гэта прэрагатыва аблвыканкамаў і Менгарвыканкама.

Яны падалі дакументы на рэгістрацыю, і экспертная камісія, складзеная з прадстаўнікоў Рускай Праваслаўнай Царквы і навукоўцаў Акадэміі навук, разгледзеўшы статут прыйшла да высновы, што ён не адпавядае канонам Праваслаўнай Царквы і заканадаўству Рэспублікі Беларусь. Па-другое, ніякага мітрапаліта Адама (Рыжага), якому яны падпарадкоўваюцца, не існуе ў прыродзе. Мы спецыяльна прагледзелі спіс усіх ерархаў праваслаўных цэркваў і там не знайшлі такога імя. На падставе гэтага экспертная камісія дала адмоўнае заключэнне па статуце, яно накіравана ў Гарадзенскі аблвыканкам, які і будзе прымаць рашэнне.

**— І напрыканцы нашай размовы, Аляксей Іванавіч, адкажыце на такое пытанне — хаця хрысціянства і не падзяляе вернікаў на «юдэяў» і «грэкаў», але разам з тым у большасці краін свету вядучыя канфесіі карыстаюцца ў набажэнствах нацыянальнымі мовамі. Ці ўлічваеце Вы гэтую акалічнасць у сваёй рабоце?**

— Мова набажэнства — гэта не прэрагатыва дзяржавы. Мы не можам даваць дырэктыву, на якой мове яго праводзіць. Гэта права Царквы і саміх вернікаў. Мы ж, безумоўна, зацікаўлены ў тым, каб выкарыстоўвалася дзяржаўная беларуская мова.

**Распытваў Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

***Уражанні***

## Застрашаныя «саўкі»

Асвячалася капліца, узведзеная ў цэнтры Слуцка, ля ракі, у памяць святой Вялікамучаніцы Варвары. Горад наведаў Мітрапаліт Менскі і Слуцкі, Патрыяршы экзарх усёй Беларусі Філарэт. Драўляная, складзеная з пакрытых лакам бярвенняў-кругляшоў, ззяючая на сонцы пяццю срэбранымі купаламі і крыжамі, капліца больш нагадвае невялікую царкву. Яна стала нібы першай «ластаўкай» адраджэння ў цэнтры горада культавых будынкаў. Да рэвалюцыі іх тут было ажно чатыры — сабор і тры драўляныя царквы, знішчаныя бальшавіцкімі ўладамі ў 30-я гады.

Высокі госць у прысутнасці святароў з усяго Слуцкага прыходу і соцень гараджан правёў малебен перад уваходам у капліцу, а затым асвяціў яе. Выступалі і прадстаўнікі грамадскасці. Далі слова і выкладчыку мясцовай дзіцячай школы Ігару Ціткоўскаму. Яго метадычныя распрацоўкі па гісторыі архітэктуры і горадабудаўніцтва Слуцка былі ў свой час адзначаны граматай V Рэспубліканскага агляду творчых і метадычных работ выкладчыкаў навучальных устаноў мастацтва і культуры. Ён адзіны сярод членаў рэдкалегіі штомесячніка «Преображение», які выдаецца настаяцелем Свята-Міхайлаўскага сабора Міхаілам Вегам, хто піша свае артыкулы па-беларуску. І на гэты раз Ігар Адамавіч застаўся верным сабе. Пасля завяршэння ўрачыстасці я падышоў да яго, каб паціснуць руку — за шчырыя, натхнёныя словы на роднай мове. А калі ішоў дамоў, сустрэўся са знаёмай настаўніцай-пенсіянеркай. Яна з запытаннем:

— Этот, что выступал, бэнээфовец?

— Чаму вы так думаеце? — здзівіўся я.

— Уж очень чисто по-белорусску говорил.

Пазбаўленай пачуцця нацыянальнай годнасці настаўніцы старой «загартоўкі» (хоць яшчэ нямала ў школах горада падобных і сярод маладых педагогаў), мусіць, рэжа вуха наша беларуская гамонка, а веданне (ды яшчэ дасканалае!) роднай мовы атаясамліваецца з пэўнай нацыянальнай палітычнай партыяй. Такое ўжо «саўковае» мысленне — бадай адзінае ў свеце. Але ж і здолелі камуністы застрашыць абывацеля бэнээфаўцамі!

## Для членаў прафсаюза — грошы на эстраду

Нядаўна Слуцк наведала «зорка» эстрады. І хоць білет на канцэрт каштаваў 40 тысяч рублёў, што сёння для правінцыйнага горада нямала, госць не прагадаў — усе білеты былі прададзены. Як стала вядома, дапамогу адміністрацыі Палаца культуры, дзе праходзіў канцэрт, аказалі кіраўнікі некаторых прадпрыемстваў, прафкамы, аплаціўшы палавіну кошту білетаў сваім рабочым і служачым. Такое практыкавалася ў горадзе і ў «застойную» пару.

А вось загадзя запланаваны прыезд у горад нацыянальнага фальклорнага ансамбля «Квецень» Менскага інстытута культуры сарваўся, хоць афішы былі расклеены загадзя, ды і кошт білета — 10 тысяч «зайцаў» — не прарочыў правалу. Не адгукнуліся на просьбу адміністрацыі Палаца культуры тыя самыя прафкамы, што расшчодрыліся на залётную «зорку». Адмовы былі аднazначныя: «У нас няма грошай». І гэта не першы выпадак, калі ў горадзе канцэрты сталічных нацыянальных творчых калектываў альбо зрываліся, альбо праходзілі ў паўпустой зале. Прычына тут не ў адсутнасці сродкаў на набыццё білетаў — хутчэй у застарэлым нацыянальным нігілізме. Не паспелі радавыя «саўкі» напрацаваць, назаласіць у агульнай масе новы нацыянальны духоўны капітал. Рэферэндум гэты працэс яшчэ больш затармазіў.

І тым не менш, трэба аддаць належнае дырэктару Палаца культуры Тамары Барысаўне Гаражанка: яна ўсё-такі дамовілася з кіраўніцтвам ансамбля «Квецень» на яго прыезд у Слуцк у ліпені месяцы на ўрачыстасці, прысвечаныя 880-м угодкам горада. Сродкі абяцае выдзеліць аддзел культуры гарвыканкама.

**Міхась ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

Згадкі

# Мова ведае пра нацыю ўсё

*Пры даследаванні гісторыі развіцця геаграфічнай адукацыі ў Беларусі я пазнаёміўся з вельмі цікавымі, на мой погляд, праграмамі для пачатковай школы, якія былі распрацаваны Цэнтральнай Беларускай школьнай радай — культурна-асветнай арганізацыяй, што дзейнічала ў 1919—1920 гг. Праграмы складзены камісіяй, створанай Цэнтральнай школьнай радай і Беларускім настаўніцкім саюзам з ліку менскіх настаўнікаў. У прадмове да праграм названы прозвішчы 25 навукоўцаў і настаўнікаў. Сярод іх — С.Булат, У.Ігнатоўскі, Ар.Смоліч — гэтыя прозвішчы вядомыя большасці сённяшніх настаўнікаў. Праграмам па канкрэтных прадметах папярэднічае раздзел з назвай «Беларуская нацыянальная школа». У ім, можна сказаць, ужываючы сучасныя тэрміны, выкладзена канцэпцыя стварэння беларускай нацыянальнай школы.*

*Глыбокія думкі і палажэнні ў адносінах нацыянальнага выхавання, роднай мовы, сфармуляваныя адраджэнцамі 20-х гадоў, як ніколі, актуальна гучаць сёння!*

*Лічу, што сённяшнім настаўнікам вельмі карысна было б азнаёміцца з думкамі лепшых настаўнікаў 20-х гадоў — пачынальнікаў стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі. Прапаную кароткія вытрымкі з «Праграмы Беларускае Ніжэйшае Пачатковае Школы», Менск, 1920.*

***Сяргей СІДОР,***
***прафесар БДУ.***

«Беларускаму народу патрэбна свая, нацыянальная школа. Абудзіць масы народу ад застою, заклікаць іх да разумнага грамадзянскага жыцця, да культурнай творчасьці, — можа толькі нацыянальная школа. Нацыянальнае выхаваньне аздараўляе і асьвяжае народныя сілы, выкрывае схаваныя здольнасьці народу, нясе яму духоўную моц, багаціць думку, правільна разьвівае яго розум.

Патрэбу нацыянальнага выхаваньня зразумелі даўно научоныя людзі. Аб значэньні яго ў жыцьці народу ясна сведчыць і гісторыя. Кожны народ тагды выходзіў на шлях культуры і сам пачынаў тварыць культуру, калі ён не паверхоўна і пассыўна карыстаўся здабыткамі чужое культуры, але калі перарабляў іх у сваіх мазгох, капаўся ў таямніцах сваіх духоўных багацьцяў і знаходзіў там новыя скарбы. Так і мы, беларусы, калі хочам падняць сваю культуру, павінны пайсьці тэю самаю дарогаю...

Асноваю нацыянальнае школы служыць родная мова — адзнака нацыі, яе духоўны твар. Мова зьбірае ўсё, што мае ў сабе дух нацыі. Няма ў нацыі нічога ні малога, ні вялікага, чаго-б мова ня ведала. Бяз мовы не адбываецца творчасьці народу. Покуль жыве мова, датуль жыве і народ, датуль і нацыянальнае выхаваньне будзе мець вялікую вагу і значэньне. Адабраць у народа мову — значыць спыніць яго разьвіцьцё, паставіць на дарозе яго культурнай творчасьці перагародку. Эпоха занападу мовы ў жыцьці нацыі — гэта эпоха занападу ўсяго жыцьця народу, спыненьне працы яго розуму; гэта нацыянальная хвароба, самае горшае няшчасьце, якое можа здарыцца ў цэлага народу.

Якое вялікае значэньне мае родная мова, гэта павінен ведаць кожны настаўнік. Той, хто будуе школу з чужою моваю, робіць праступак такі, якому па вялічыне няма роўнага. Так кажуць вялікіе педагогі. От-жа беларускі настаўнік не павінен чыніць такога гвалту. Матчына мова павінна шанавацца, як самое жыцьцё дзіцяці... Гвалт над роднаю моваю — гэта ёсьць учынак, праціўны самой прыродзе. Яна надзяліла нацыю асобнаю моваю, яна так злучыла мову і думку, што адно без другога ня жывуць. Мова зьліваецца з першымі дзяцінымі ўяўленнямі, кіруе разьвіцьцём дзіцяці. Нормальна развітое дзіця ня можна ўявіць бяз роднай матчынай мовы. Матчына мова ляжыць у мінулым дзіцяці, яна зьвязана з першымі дзіцячымі перажываньнямі, рухамі. Бяз калецтва душы і розуму дзіцяці ніяк ня можна адабраць ад яго родную мову».

*Да 200-годдзя з дня нараджэння Яна Чачота*

*Анатоль АКСАМІТАЎ*

# «Для будучых даследнікаў»

## Ян Чачот ля вытокаў беларускага мовазнаўства

Цікавасць да беларускай мовы і яе вывучэнне пачынаецца ў XIX ст., калі вызначаецца тэндэнцыя выразнага размежавання славянскіх моў і этнасаў. Канец XVIII — пачатак XIX ст. характарызуецца фарміраваннем нацыянальнай самасвядомасці славянскіх народаў і звязанай з ёю цікавасцю да сваёй гісторыі. Адным з праяўленняў нацыянальна-патрыятычнага руху славянскіх народаў з'явіўся славянскі фальклорызм, які выступаў як зброя палітыкі і барацьбы за захаванне народнай годнасці. Адначасова са зборам і вывучэннем вуснай народнай паэзіі і стварэннем на яе аснове твораў у народным стылі асаблівая цікавасць праяўляецца да народнай мовы — праводзіцца збор і публікацыя дыялектнай лексікі, укладанне рознага тыпу рэгіянальных слоўнікаў.

У ліку першых, хто прызнаваў беларускую мову як самастойную, надзеленую нацыянальна-спецыфічнымі рысамі і асаблівасцямі ў галіне фанетыкі, граматыкі і лексікі, быў ураджэнец Беларусі, адзін з зачынальнікаў славістычнай навукі Зарыян Даленга-Хадакоўскі (Адам Чарноцкі). Ён першы вызначыў і арэал яе распаўсюджання. Услед за Хадакоўскім і пад яго непасрэдным уплывам цікавасць да беларускай мовы выказалі расійскія вучоныя К.Калайдовіч, П.Кэпен, І.Лабойка, І.Бадзянскі, чэшскі вучоны І.Шафарык, якія таксама лічылі беларускую мову як самастойную.

Да выдатнай плеяды славянскага адраджэння належаў Ян Антоній Чачот (1796—1847). Яго запаветнай марай было стварэнне слоўніка і граматыкі беларускай мовы, руплівым збіральнікам скарбаў і энергічным папулізатарам якой ён з'яўляўся. «Іншыя дыялекты славянскага паходжання — больш шчаслівыя, бо нават такія, як, напрыклад, краінскі, краацкі і далмацкі, кожны з якіх паасобку не налічвае і трохсот тысяч жыхароў, што гавораць на ім.., маюць свае граматыкі і слоўнікі. Тут наадварот, крывіцкае племя, якое налічвае некалькі мільёнаў насельніцтва, не мае нічога болей, апрача катэхізіса, выдадзенага нядаўна ў Віленскай епархіяльнай друкарні»[1] — са шкадаваннем адзначаў Чачот. Збіраючы і ўсебакова разглядаючы народныя песні, што складала асноўную мэту яго фальклярыстычнай дзейнасці, Чачот праводзіў назіранні над асаблівасцямі мовы, якія яму «ў гэтых адносінах сустракаліся», каб стварыць агульны нарыс беларускай мовы, які «для будучых даследнікаў славяншчыны» з'явіўся б добрай падмогай у іх даследаваннях. Поўнае ж вывучэнне беларускай мовы, на якой яшчэ пры памяці аўтара «любілі гаварыць і старыя паны паміж сабой і на якой яшчэ цяпер гавораць паны і аканомы з сялянамі, на якой некалі пісалі ў нас дзяржаўныя акты, цалкам ляжа, спадзяваўся Чачот, на плечы нейкага здольнага чалавека, можа селяніна, які, атрымаўшы веды, больш глыбока разгледзіць добра вядомую яму мову»[2].

Дзеля гэтага, лічыў Чачот, трэба запісваць назвы жыллёвых і гаспадарчых збудаванняў, хатняга начыння, патраў, творы вуснай народнай творчасці, асобныя трапныя народныя словы і выразы, якія, на яго думку, «маглі б памножыць багацце не толькі літаратурнай мовы, але паслужылі б крыніцай у справе вывучэння і атрымання больш поўных і сталых высноў аб характары паходжання мовы»[3]. Ён звяртае ўвагу на неабходнасць занатоўвання этнаграфічных дадзеных (пра што адзначалася яшчэ ў інструкцыі па зборы народазнаўчых матэрыялаў Віленскага універсітэта, падрыхтаванай пры яго ўдзеле таварыствам філаматаў, куды ўваходзіў і Чачот), у прыватнасці, прыёмаў прыгатавання сялянскага хлеба, ужыванага ў розных мясцовасцях і ў розныя поры года. Гэта, як лічыў Чачот, засяродзіла б увагу не толькі даследнікаў мовы і «было б больш карысным для сучаснікаў, чым калекцыя каштоўных мінералаў»[4]. Наогул, Чачот заклікаў сабраць усе скарбы духоўнай і матэрыяльнай культуры, «каб нашчадкі нашы не папракалі нас, як мы папракаем мінулых хранікёраў, якія не сабралі ўсяго гэтага і аб чым толькі мімаходзь упамінаюць»[5].

Чачот адным з першых у беларускім мовазнаўстве (услед за З.Я.Даленгам-Хадакоўскім) зрабіў кароткае і неблагое для таго часу апісанне беларускай мовы, дадаўшы да яго слоўнічак «Некаторых крывіцкіх ідыём (уласназваў) з Навагрудскага павета, а таксама асобных слоў, што розняцца па значэнні са словамі іншых славянскіх моў»[6]. У грунтоўнай і разгорнутай прадмове да сваёй 6-й, апошняй кніжкі «Песень з-над Нёмана і Дзвіны» ён намячае праграму збірання і вывучэння беларускага фальклорнага, моўнага і этнаграфічнага матэрыялу, які, на яго думку, «захаваў славянскасць у чыстым выглядзе.» Прыступаючы да апісання беларускай мовы, ён вызначае яе месца сярод іншых славянскіх. «Крывіцкі дыялект, — піша ён, — прамежкавы паміж польскім, рускім і ўкраінскім. Украінскі, ці палянскі, па будове сваёй і даўжыні галосных больш падобны да польскага, крывіцкі — да рускага»[7]. Далей ідзе даволі падрабязная характарыстыка гукаў і граматычнага складу беларускай мовы ў параўнанні з адпаведнымі ўзорамі польскай і расійскай моў. Звяртаючы ўвагу на фанетычныя і лексічныя адрозненні паміж гаворкамі беларускай дыялектнай мовы, ён спрабуе растлумачыць прычыну іх узнікнення. «Што ж казаць пра вымаўленне слоў, калі ў пісьмовых мовах, узятых у пэўныя правілы, столькі ёсць адрозненняў не толькі ў жывой, але і ў друкаванай мове. Нічога дзіўнага тады, што крывіцкі дыялект, без правіл, непісьмовы, мае не толькі ў кожным павеце, але ў кожнай, можа, вёсцы нейкае асобае вымаўленне і ўласцівыя яму словы»[8].

1) Czeczot Jan. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy. Wilno, 1846. — S. XXXIII.
2) Тамсама, с.XXIV.
3) Тамсама, с.VI.
4) Тамсама, с. XXXII.
5) Тамсама.
6) Тамсама, с. 69—96.
7) Тамсама, с.VII.
8) Тамсама, с.XVII.

*(Заканчэнне будзе.)*

У свеце

# Ціхая краіна Славенія

Да гэтай краіны нарэшце пачалі больш уважліва прыглядацца расійскія журналісты і дыпламаты, хаця югаслаўскія ўлады па-ранейшаму стараюцца яе не заўважаць. Зусім нядаўна і ў Расіі Славенію папракалі ў «сепаратызме», які да дабра не прывядзе. Як маленькая краіна да яшчэ амаль без прыродных выкапняў і з цалкам інтэграванай эканомікай жадае стаць самастойнай? — дзівіліся і абураліся ў Бялградзе і Маскве. Разумеючы, што гэта спакуслівы прыклад для іншых «малодшых братоў». Летам 1991 года югаслаўская армія, аберагаючы вялікасербскія амбіцыі, паспрабавала сілай зброі ўстанавіць у Славеніі ранейшы «канстытуцыйны парадак». Славенцы хуценька сабралі апалчэнне ды так энергічна пачалі абараняцца, што змаглі выстаяць супраць аснашчанай цяжкім узбраеннем рэгулярнай арміі Бялграда. У баях загінула больш за 100 чалавек, у асноўным сербаў-федэралаў. На сваёй тэрыторыі славенцам, як той казаў, і «вуглы дапамагалі». А галоўнае — нацыянальная еднасць насельніцтва. Атрымалася нешта падобнае на чачэнскі фенамен, толькі з больш спрыяльнымі для нацыі вынікамі. Перамозе славенцаў паспрыяла і тое, што яна, як раней згадвалася, аказалася слаба «разбаўленай» сербскімі мігрантамі, таму югаслаўскія спецслужбы не змаглі стварыць эфектыўнай дыверсійнай, разбуральнай сілы ўнутры краіны, якая традыцыйна з часоў грамадзянскай вайны ў Іспаніі завецца «пятай калонай».

Дык колькі таго насельніцтва ў Славеніі, якая здолела не толькі застацца ў баку ад крывавай югаслаўскай міжнацыянальнай трагедыі «воссоединения», але і самастойна развівацца? Два мільёны. У сярэднім — адна беларуская вобласць.

«Няўжо гэтая краіна калісьці была часткай Югаславіі? — дзівіцца журналіст расійскай газеты «Известия» Максім Юсін, які нядаўна наведаў Славенію. — Гэтае пытанне, — працягвае ён, — пастаянна задаеш сабе на вуліцах Любляны, Бледа, Пірана і іншых гарадоў Славеніі. Тут значна больш добрых машын, чымся ў суседняй Харватыі, не кажучы ўжо пра Сербію. Непараўнальна лепшы выбар тавараў у магазінах. І галоўнае, у размовах з людзьмі не адчуваецца насцярожанасці і азлобленасці, якія гэтак часта можна сустрэць у краінах, нядаўна перажыўшых вайну».

Канешне, ёсць яшчэ адна прычына, чаму Бялград хутка «адчапіўся» ад Славеніі, заўважае журналіст, ад сербскіх земляў яе аддзяляла тэрыторыя Харватыі, для ўтаймавання «сепаратызму» якой давялося кінуць значныя вайсковыя сілы. Аднак зноў жа сітуацыя магла быць іншай, каб тут аказалася такая ж значная «сербская меншасць», як у Харватыі ці Босніі.

Што да эканомікі, то большая нацыянальная маналітнасць, адзначаюць назіральнікі, яшчэ ў часы маршала Ціта дазволіла тут не толькі не разбурыць дакамуністычны гаспадарчы ўклад. а і развіваць сувязі з Захадам, пераймаючы вопыт і перадавыя тэхналогіі. Таму і пасля краху камуністычнага эксперымента тут не давялося, як палякам ці чэхам, лячыцца «шокам» — не было ні рэзкага спаду вытворчасці, ні нават моцнай інфляцыі.

«Эканамічныя паказчыкі Славеніі ўражваюць, — піша карэспандэнт «Известий». — У мінулым годзе інфляцыя склала ўсяго 8,6 працэнта, валавы нацыянальны прадукт узрос на 4,5 працэнта. Сёння прадпрыемствы двухмільённай Славеніі выраблююць столькі ж прадукцыі, колькі прамысловасць дзесяцімільённай Югаславіі, якая ўключае ў сябе Сербію і Чарнагорыю». Можна дадаць яшчэ, што якасць і канкурэнтаздольнасць славенскіх тавараў імкліва становіцца ў адзін шэраг з лепшымі заходнееўрапейскімі. Адсюль і пристойны ўзровень жыцця. «Сярэдняя зарплата ў Славеніі, — адзначае карэспандэнт «Известий», — самая высокая ў Цэнтральнай Еўропе — 970 германскіх марак у месяц. Славенская грашовая адзінка — толар — дзесяць месяцаў таму стала свабодна канвертуемай валютай».

Асляпленае вялікадзяржаўнымі амбіцыямі, адзначаюць назіральнікі, югаслаўскае кіраўніцтва па-ранейшаму не спрыяе развіццю нармальных узаемавыгадных эканамічных адносін сваёй краіны з Славеніяй. Але тая хутка справілася з разрывам былых вытворчых сувязей. Цяпер каля 70 працэнтаў тавараабароту ажыццяўляецца з краінамі Еўрапейскага саюза. На эканамічныя магчымасці Славеніі пачынае звяртаць усё больш пільную ўвагу і Расія. Напрыклад, плануецца праз славенскую тэрыторыю правесці газапровад, які працягнецца да паўночных раёнаў Італіі. Магчыма, адна з нітак пойдзе і ў Харватыю. Агульная сума капіталаўкладанняў (інвестыцый) тут саставіць каля паўмільярда долараў. Толькі за транзіт газу па сваёй тэрыторыі Славенія штогод будзе атрымліваць каля 50 мільёнаў долараў, не кажучы пра рабочыя месцы і магчымасць набываць газ для сваіх патрэб па «боскіх» цэнах. І за ўсё гэта Расія не патрабуе ад Славеніі ні нейкай «сверхтесной» інтэграцыі, ні аднаўлення федэрацыі з Югаславіяй. Увогуле, славенцы вельмі асцярожна ставяцца да інтэграцыйных працэсаў. Нават з Харватыяй яны вытрымліваюць адпаведную дыстанцыю. «Мы не хочам, каб, як у першыя гады пасля абвяшчэння незалежнасці, нас з харватамі лічылі братамі-блізнятамі», — кажа прэзідэнт Славеніі Мілан Кучан.

«Яшчэ болей складаныя адносіны ў славенцаў з сербамі», — заўважае карэспандэнт «Известий». Ён прыводзіць словы зноў жа прэзідэнта Славеніі Мілана Кучана пра тое, што, знаходзячыся ў канфлікце з палітыкай бялградскага кіраўніцтва, якое не жадае прызнаць прынцып раўнапраўнасці нацый, славенцы, аднак, не маюць варожасці ні да аднаго народа былой Югаславіі. Але пра нейкае аднаўленне федэрацыі паміж імі, хаця б і на нейкіх новых умовах не можа быць і размовы. «Мы хочам стаць часткай заходнееўрапейскай цывілізацыі, — заяўляе прэзідэнт Славеніі. — Па гэтым пытанні ў грамадстве і сярод розных палітычных партый дасягнута поўнае паразуменне, кансэнсус». Што гэта азначае для славенцаў на практыцы, можна зразумець, параўнаўшы былое і сённяшняе іх жыццё. Газета «Известия» друкуе рэпартаж свайго карэспандэнта пад загалоўкам «За пяць гадоў свабоды славенцы забылі, што калісьці былі югаславамі». Відаць, гэта не зусім так, інакш яны не імкнуліся б не толькі далучыцца да ЕС, але і ўвайсці ў НАТО.

*Па матэрыялах замежнага друку.*

# Кола сям'і

**_Масару ІБУКА_**

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

### Бацька павінен часцей бавіцца з дзецьмі

Часта, ужо дарослыя, нашы дзеці з радасцю, як пра свята, успамінаюць тыя прыемныя хвіліны, якія яны правялі з бацькам, таму што, зазвычай, у многіх сем'ях гэта было не так ужо часта. Мой старэйшы сын дасюль добра памятае тое, што мы рабілі разам: прыкладам, як аднойчы каталіся на лодцы па моры, а на зваротным шляху елі салодкую чырвоную фасоль. Гэта было гадоў 30 таму, і я зусім забыўся на гэта.

Традыцыйна ў сем'ях бацьку адводзілася аўтарытарная роля, ён быў захавальнікам парадку і радзей удзельнічаў у штодзённых клопатах пра дзяцей. Калі дзіця бачыць свайго бацьку рэдка і толькі для таго, каб выслухаць чарговую порцыю натацый, ён хутчэй за ўсё будзе ўспрымаць бацьку як чужога, накшталт лекара, якога выклікаюць у экстраннай сітуацыі. Няўпэўненае ў сабе, дакліваe дзіця часта не мае цёплых пачуццяў да бацькі. І хаця можа здарыцца так, што дзіця выхаванае «строгім бацькам», вырасце геніем, зробіцца славутасцю, але хутчэй за ўсё яно будзе пакорлівым і бесхарактарным. З другога боку, калі бацька п'е, грубы з жонкай і зусім не займаецца выхаваннем, то ў такой сям'і дзіця можа вырасці сапсаваным і нават зрабіцца злачынцам. Такія выпадкі нярэдкія.

Я думаю, што вядучая роля ў выхаванні і навучанні дзяцей належыць маці. Але пад гэтым я не маю на ўвазе, што бацька павінен цалкам перадаверыць выхаванне дзяцей сваёй жонцы. Быць сапраўдным сябрам і памочнікам для жонкі — хіба гэта не роля мужа ў хатнім выхаванні? Гарманічнай атмасферы ў хаце нельга дасягнуць толькі намаганнямі маці.

Нядаўна ў аўтобусе я назіраў за адной сям'ёй: тата, маці і дачка. Маленькая дзяўчынка, гадоў трох, з захапленнем балбатала з татам. Яны абодва былі захопленыя гутаркай, а маці стаяла побач і чытала нейкі часопіс, робячы выгляд, быццам нічога не чуе. Я адчуваў, што тата не проста размаўляў, а свядома спрабаваў кантактаваць са сваёй дачкой, маці ж старалася не ўмешвацца. І тады я падумаў, што гэтае дзяўчо вырасце цудоўнай жанчынай. Тое, што для дарослага ўяўляецца звычайнай, дарэмнай балбатнёй, для дзіцяці — велізарнае задавальненне.

Нельга выхаваць па-сапраўднаму добрага чалавека ў сям'і, дзе праца па выхаванні і развіцці дзіцяці цалкам ляжыць на маці, а тата толькі час ад часу па яе просьбе ўключаецца ў гэтыя клопаты. Ніякі недахоп часу ці стома пасля працы не павінны перашкаджаць татам як мага больш кантактаваць са сваімі дзецьмі.

### Чым больш у сям'і дзяцей, тым лепш для дзяцей

У сучаснай Японіі існуе традыцыя, калі маладыя сем'і жывуць незалежна, асобна ад бацькоў і сваякоў, прычым, зазвычай, у сем'ях не больш трох дзяцей.

Сам я быў адзіным дзіцем у сям'і, што было рэдкасцю ў той час. Я зайздросціў сваім сябрам, у якіх былі браты і сёстры, і заўжды імкнуўся ў гэтыя шумлівыя сем'і, дзе дзеці бурна гулялі і сварыліся.

Адметна, што першае дзіця ў сям'і часта найменш развітае, яно ціхае, у яго добрыя манеры, але яму не хапае жыццярадаснасці. І наадварот. Мой сябра, сярэдні з трох братоў, быў смелы, самаўпэўнены, нават дзёрзкі, ён ніколі не плакаў, калі браты крыўдзілі яго. І я не адзіны сведка такіх выпадкаў, яны сустракаюцца досыць часта.

І ўсё ж чаму дзеці адных і тых жа бацькоў, выхаваныя ў адной сям'і, вырастаюць такімі рознымі па характары і здольнасцях? Агульнапрынята, што бацькі не песцяць так сваё другое ці трэцяе дзіця, як першае, таму тыя, натуральна, растуць больш незалежнымі.

Колькі б бацькі ні стараліся стварыць дома добрую атмасферу, розныя забаўкі і стымулы для першага дзіцяці, яно не будзе мець тае перавагі, што другое дзіця, у якога ад самага нараджэння ёсць кампанія і якому ўвесь час даводзіцца спаборнічаць са старэйшым, дзякуючы чаму яно хутчэй робіцца дужым і жыццярадасным. Яшчэ ў большай ступені гэта тычыцца 3-га і 4-га дзіцяці, якіх жыццё прымушае расці трывалымі целам і моцнымі духам.

Заўважана, што, калі дзіця бярэ, напрыклад, урокі ігры на скрыпцы, яго заняткі будуць больш паспяховыя, калі разам з ім вучацца яго брат ці сястра.

Таленавітыя людзі, народжаныя ў бедных сем'ях, дзе звычайна шмат дзяцей, дасягалі выбітнога поспеху, у прыватнасці, таму, што дзіцяці лягчэй развіць неардынарныя здольнасці і характар, калі яно расце ў доме, дзе шмат дзяцей і дзе дзякуючы гэтаму стымулюецца развіццё кожнага.

*(Працяг будзе.)*

**Падрыхтавала Л.Ш.**



У віцебскай сярэдняй школе № 17 прайшоў конкурс эрудытаў на званне «Вучань года». Удзельнікі спаборнічалі ў ведах, майстэрстве; даказвалі рэжысёрскія здольнасці ды ўменне вырашаць сітуацыі з школьнага жыцця.

**На здымку:** Аднакласнікі ўшаноўваюць пераможцу — **Віктара ГЛУШЫНА.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

***Здароўе***

***Таццяна ФАМІНА,***
***кандыдат медыцынскіх навук***

## Сэлен, небяспечны і чарадзейны

Доўгі час гэты хімічны элемент лічылі атрутай. Шкоднасць сэлену пацвердзілі ў 1933 годзе, калі заўважылі, што пшаніцай, якая расла на глебе, празмерна багатай гэтым элементам, труціцца быдла. Ужо пры дозах 1 міліграм сэлену на 1 кг жывой вагі скаціна хварэе і дрэнна расце, коні слепнуць, гіне свойская птушка, яйкі не наседжваюцца. Так, сапраўды, сэлен можа нарабіць шкоды, калі спажываецца неадпаведная доза. Але падбор яе вельмі складаны, бо дзеля падтрымання здароўя чалавеку неабходна штодня толькі 0,00001 грама сэлену.

У 60-я гады пачалося захапленне гэтым элементам. Без сэлену няма здароўя! Сэлен разам з вітамінам Е ратуе сэрца! Сэлен прадаўжае маладосць! Сэлен абароніць нас ад рака! Ды сапраўды адкрыццё сэлена — чынніка здароўя — сталася пераломным момантам у медыцыне, а таксама і ў гадоўлі быдла.

Сэлен увогуле яшчэ застаецца таямнічым, хоць некаторыя ягоныя ўласцівасці ўжо вядомыя. Гутнікі выкарыстоўваюць яго дзеля павышэння крышталізацыі шкла. Электрыкам сэлен вядомы як дасканалы ізалятар. А да таго ж, ён добра праводзіць святло, а таму стаў асновай фотаэлемента. Як бачым, сэлен выкарыстоўваецца ў розных галінах навукі і прамысловасці. І ў той жа час яго ў глебе меншае, асабліва ў тых умовах, калі яна старанна апрацоўваецца. Сэлен вымываецца вадой і ўрэшце трапляе ў мора. Таму і багатыя на сэлен селядцы, крабы, крэветкі ды іншыя «дары мора».

Але нам не трэба чакаць вяртання сэлену з мора, бо ёсць расліны, якія назапашваюць сэлен ці проста маюць яго акурат столькі, колькі трэба чалавеку. Гэта кукуруза, памідоры, часнок, пшаніца, а таксама і грыбы. Багатай крыніцай сэлену могуць быць яйкі, ныркі, а таксама печань і сэрца свіней і буйной рагатай жывёлы. Наогул, амаль няма прадуктаў, каб у іх не было хоць бы следу гэтага хімічнага элемента. А болей якраз чалавеку і не трэба. Вось бяда наша ў тым, што сэлен губляецца пры гатаванні стравы, пры неадпаведным яе спажыванні, скажам, з цукрам.

## Сэлен, вітамін Е і сэрца

Сэлен, гэтак жа як і вітамін Е, з'яўляецца антыксідантам (звязвае свабодныя радыкалы — запабягае назапашванню ў арганізме «кіслых шлакаў»). Але такое падабенства не азначае, што яны ўзаемазамяняльныя. Вітамін Е і сэлен выконваюць свае адметныя функцыі ды «супрацоўнічаюць», замяняючы адзін аднаго ў біялагічных працэсах.

Калі б сэлен толькі актывізаваў дзеянне вітаміну Е, і то ўжо быў бы незаменным, неабходным. Але ён, апроч таго, аберагае нуклеінавыя кіслоты (тыя, з якіх «будуюцца» бялкі) ад пашкоджанняў, спрыяе супраціўленню арганізма хваробам.

Канадскі прафесар Уілфрыд, адзін з сама аўтарытэтных даследнікаў вітаміну Е, сцвярджае, што гэты вітамін выконвае надзвычай важную ролю ў падтрымцы нармальнай працы сэрца і засцерагае нас ад хваробаў крывяноснай сістэмы. І сэлен патрэбны дзеля «здароўя» сардэчнай мышцы і крывяносных сасудаў. Шмат хто з дактароў пераканаўся, што толькі ў спалучэнні з сэленам лячэнне вітамінам Е дае добрыя вынікі.

*(Працяг будзе.)*

***Зялярскія гутаркі***

## Пятрушка

Гэтая расліна добра вядомая, але, на жаль, не стала абавязковай дзеля спажывання. А яе лекавыя ды іншыя карысныя ўласцівасці, што ведалі ўжо старажытныя грэкі і рымляне, трэба выкарыстоўваць і нам. Доследамі даведзена, што спрыяльнае дзеянне пятрушкі залежыць ад вітамінаў, флаваноідаў, а таксама эфірнага алею, які ў замежных краінах стаў афіцыйным лекавым сродкам.

Шмат у каго пятрушка ўжо ўзышла і зазелянелі лісткі, то перш скажам менавіта пра іх. Апроч згаданага алею, лісце гэтай расліны багатае на каратыноіды, аскарбінавую і фоліевую кіслоты, флаваноіды. Спецыяльнымі доследамі выяўлена жаўцягоннае ўздзеянне адвару (1:10) свежага лісця пятрушкі, які значна перавышае ўздзеянне аптэчных сродкаў, прыкладам, сульфата магнэзу. Таму і прапануюць такія адвары дзеля лячэння гіпатанічных і гіпакінетычных дыскінезій жоўцевага пухіра.

Шмат карысных рэчываў маюць насенне і карэнні пятрушкі, якія можна спажываць цэлы год.

Лекі, падрыхтаваныя з пятрушкі, раяць дзеля павышэння тонусу гладкай мускулатуры кішэчніка, маткі, мочавага пухіра, а таксама як мачагонныя ў выпадках вадзянкі ды ацёкаў пры хваробах сэрца, некаторых недамаганнях нырак і мочавага пухіра. Навукоўцы і дактары сцвярджаюць станоўчыя эфекты лячэння такімі лекамі парушэнняў менструальнага цыкла, недамаганняў, звязаных з недахопам вітамінаў С і А. Таму, відаць, і народныя лекары раяць лячыць пятрушкай раны, слабыя і крывавячыя дзёсны, саслабелы зрок. Добра вядомы эфект спажывання пятрушкі дзеля апетыту і наладжвання парушэнняў стрававання. Адвар карэнняў пятрушкі выкарыстоўваюць, каб аблегчыць боль ад пчалінага ды восавага яду, камаровых укусаў.

На зіму пятрушку сушаць (карэнне — парэзаным на кавалкі) і соляць.

**Зяляр.**

## Ваша сядзіба

Некаторыя шаноўныя чытачы, ухваліўшы змест гэтай калонкі, прапанавалі, аднак, замяніць яе назву на больш «важкую»: маўляў, лецішча — гэта нешта ўсё ж сезоннае, мае пэўнае «цыганістае», часовае адценне, тады як сапраўдны беларус больш імкнецца да пастаянства, аседласці. Таму, па аналогіі з той жа моднай на Захадзе «фермай» ці экзатычнай «фазэндай», большасць нашых дарадцаў сышліся на назве «сядзіба». Тут вам і аселасць-пастаянства, і грунтоўнасць, і гаспадарлівасць адчуваюцца. Да таго ж, «лецішча», заўважаюць чытачы, у любым выпадку — гарадская асаблівасць гаспадарання на зямлі, але ж калі нават амерыканскія прэзідэнты-мільянеры ганарацца сваімі «фермамі», то чаму б тады руплівай беларускай сям'і — ці то гарадской, ці то вясковай — не дбаць хаця б пра сціплую, але пастаянную «сядзібу» з дамком і палетачкам.

Назву «дача» адверглі ўсе. Нешта ў ёй для беларуса сапраўды «муляе», чужое. То няхай ужо «дачай» цешацца чыноўнікі і «саўкі».

У далейшым пастараемся расказаць, якія сядзібы маюць нашы суседзі з блізкага і далёкага замежжа, і будзем прыслухоўвацца да вашых, паважаныя чытачы, пытанняў і прапаноў. Словам, пастараемся «ўрабляць» нашу беларускую сядзібу разам ды прыглядаючыся да ўсяго цікавага і вартага пераймання ў спраўных суседзяў. У першую чаргу, відаць, звернем асаблівую ўвагу на вопыт прыбалтаў.

**А цяпер пра ваш сад у першай палове чэрвеня.**

Пачынаецца ўпартая барацьба з пустазеллем. Асабліва звернем увагу на макрыцу, якой нельга дазваляць цвісці, і на пырнік. Месца, дзе апошні размножыўся, лепей перакапаць садовымі віламі з частымі і шырокімі рагамі. Карані не класці ў адну кучу з іншым пустазеллем, а лепей — у бочку ці старую (але яшчэ не дзіравую) выварку з вадой. Туды ж можна пакласці і карані іншага шматгадовага пустазелля, а таксама дзьмухаўцы. Дзён праз 7—10 атрымаецца выдатны настой для падкормкі любых раслін, а таксама апырскванне кустоў і дрэў па кроне.

А яшчэ добра апырскваць кроны дрэў і кустоў лёгкім растворам мачавіны ці салетры. Тут карысць двайная — садзеянне росту і абарона ад многіх шкоднікаў. Чэрвень — увогуле адзіная пара інтэнсіўнага росту дрэў. У гэты час вельмі неабходны пастаянны паліў, асабліва для сліў і яблынь. Калі ж прырост у гэты перыяд нязначны (менш 5—10 см), дрэва патрабуе асаблівай увагі.

У месцах прывівак выдаляюцца канкурэнтныя парасткі-сваякі з «драмаўшых» пупышак. Ранкі замазваюцца садовым варам ці фарбай. Прышчыпваюцца таксама верхавінкі тых парасткаў, якія вельмі «разагналіся» ці ўвогуле непажаданыя для фарміравання добрай кроны.

Кусты парэчкі і агрэсту варта апырскаць калі не растворам купарвасу, то для прафілактыкі кальцыніраванай содай — 50 г соды і 50 г гаспадарчага мыла на 10 л вады.

У агародзе недзе з 8—10 чэрвеня высяваюць апошнія культуры — фасолю, рэдзьку, расаду памідораў высаджваюць на пастаяннае месца. Некаторыя зрабілі гэта раней, але гэта рызыкоўна — як пашанцуе на надвор'е. Пра рэпу скажам пазней, а пакуль варта падрыхтаваць для яе градку.

**Д.БАРАДЗЕД.**

*Беларускае Адраджэнне*

Алена ЯСКЕВІЧ,
кандыдат філалагічных навук

# Львоўска-Астрожскі перыяд дзейнасці Івана Фёдарава

Выдавецкая праграма заблудаўска-супральскага інтэлектуальнага цэнтра была ўсё ж ажыццёўлена ў 1581 годзе ў маёнтку князя Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага, першага пасля караля ў іерархіі свецкіх феадалаў Княства і Кароны, выданнем першай поўнай кананічна дакладнай царкоўнаславянскай Бібліі. Такім чынам, астрожскі звод-пераклад Бібліі стаўся адзіным кананічным тэкстам, які абслугоўваў літургічныя патрэбы праваслаўнага славянства на працягу амаль 4-х стагоддзяў.

Першы поўны рукапісны звод Бібліі быў зроблены пры падтрымцы наўгародскага архіепіскапа Генадзя Ганозава для барацьбы з ерассю «жыдоўствуючых» (1499 г.). Існаваў і ўласна беларускі звод. Праца над ім распачалася ў 1502 г. Мацеем Дзесятым, падрыхтаваным багасловам, каліграфам і мастаком (ім выкананы «Дзесяціглаў»), і была закончана ў 1514 г. дыяканам Фёдарам Янушэвічам (Гістарычныя кнігі і «Пяцікніжжа» Маісеева). Звод Мацея Дзесятага і лёг у аснову Скарынаўскага перакладу Бібліі, які, па сведчанні аўтара, быў поўным, але многія кнігі Старога Запавету не дайшлі да нас. І першай друкаванай славянскай Бібліяй стала выдадзеная ў 1581 г. І.Фёдаравым астрожская Біблія, у аснову якой быў пакладзены грэцкі пераклад LXX. Расійскі сінадальны пераклад Бібліі быў зроблены ў сярэдзіне мінулага стагоддзя працай мітрапаліта маскоўскага Філарэта і прафесараў духоўных акадэмій на падставе старажытнаяўрэйскага мазарэцкага тэксту. (Гл.: Толковая Библія или комментарій на всѣ книги Св. Писанія Ветхаго и Новаго Завѣта. Стокгольм, 1987, Кн. І. С.VІІ.)

Гэтай найвялікшай з'яве ў славянскай пісьменнасці папярэднічаў доўгі падрыхтоўчы перыяд: у Львове з 25 лютага 1573 г. па 15 лютага 1574 г. друкуецца Апостал, у Астрозе ў 1580 г. выдаюцца Псалтыр і Новы Запавет, а таксама алфавітна-прадметны ўказальнік і зборнік афарызмаў «Книжка собрание вещей нужнейшыхъ, въкратце скораго ради обретения в книзе Новаго Завета», выдаюцца школьныя падручнікі «Букварь» (1574 г., Львоў) і «Азбука» (1578г., Астрог).

У навуковай літаратуры істотнага адрознення паміж тэрмінамі «буквар» і «азбука» амаль не існуе, яны сінанімічныя. Традыцыйна склалася, што буквар мае памер брашуры або невялічкай кнігі, азбука — выданне, звычайна меншае па памеры, надрукаванае ў выглядзе табліцы або лістоўкі. Іван Фёдараў плённа развівае традыцыі папярэднікаў: цюбінгенскага буквара 1561 г. і азбукі з веніцыянскага малітоўніка 1571 г.

Фёдараўскія «Буквар» і «Азбука» змяшчаюць у сабе складова-літарную, граматычную, экзэгетычную, літаратурна-крытычную і навуковую часткі. Уласна букварная частка (складова-літарная) мае наступны парадак літараў: звычайны, зваротны, т.зв. «вспятаслоўе», вертыкальны ў васьмі слупках, а таксама склады з дзвюх і трох літараў. (Дарэчы гэты метад занатаваны ў берасцяных наўгародскіх граматах ХІІІ стагоддзя хлопчыкам Анфімам.) Астрожскі варыянт, у адрозненне ад львоўскага, змяшчае разгорнуты загаловак-надпісанне на дзвюх старонках, грэцкую азбуку са славянскімі адпаведнікамі грэцкім літарам, царкоўнае правіла з грэцкімі малітвамі і іх славянскім перакладам.

Акрамя складова-літарнай, навучальная частка кніг змяшчае ўласна **граматыкію**: спражэнне дзеясловаў 2-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу, 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу, 1-й асобы парнага ліку цяперашняга часу, 2-й асобы парнага ліку цяперашняга часу, 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу, 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу, 3-й асобы множнага ліку цяперашняга часу, формы зваротнага дзеяслова і дзеепрыметніка незалежнага стану цяперашняга часу мужчынскага роду адзіночнага ліку; **прасодыю**, дзе побач са складанай старажытнай сістэмай акцэнталогіі (націскаў і прыдыханняў) змяшчаюцца амографы (амаграфічныя формы маюць аднолькавае напісанне, але розны націск ці ўвогуле вымаўленне) г.зн. формы дзеясловаў; **артаграфію**, дзе разглядаюцца назоўнікі і прыметнікі ў адпаведных склонавых формах пад цітламі (якія нам давялося раскрыць); **акраверш** — пералік цытатаў, крылатых выразаў з Бібліі, якія размешчаны ў адпаведнасці з 28 літарамі кірылічнай азбукі, даследнікі называлі іх тлумачальнымі азбукамі або азбучнымі малітвамі. Першаасветнік таксама знаёміць чытача з кірылічнай цыфір'ю, паводле якой у стараславянскай пісьменнасці лічбы абазначаліся літарамі алфавіта.

# Усё пра Ерусалім




У Нацыянальнай бібліятэцы адкрылася выстава кнігі (на здымку). Гэта адно з мерапрыемстваў Дзён культуры Ізраіля ў Беларусі, якія праводзяцца ў рамках святкавання 3000-годдзя Ерусаліма — месца, адкуль пачало распаўсюджвацца хрысціянства. У экспазіцыі — шмат альбомаў пра Ерусалім, літаратура пра гісторыю яўрэйскай дзяржавы, статыстычная інфармацыя, кнігі пра катастрофу еўрапейскага яўрэйства ў часе другой сусветнай вайны. Акрамя кніг, у бібліятэцы можна ўбачыць фотавыставу «Начны Ерусалім».

Пасол Ізраіля ў Беларусі Эліяк Валк, які прысутнічаў на выставе, перадаў у дар Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі сем тамоў Кароткай яўрэйскай энцыклапедыі.

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.**

# Даты і падзеі ў чэрвені

8 — 170 гадоў таму быў выкананы тастамант А.Т.Касцюшкі (Змагар за незалежнасць ЗША даручаў свайму сябру, будучаму прэзідэнту ЗША Томасу Джэферсану, каб той выкарыстаў усе мае ўладанні дзеля выбаўлення з рабства неграў... Каб даў ім волю ад майго імя, каб забяспечыў ім навучанне рамёствам або ў іншых навуках...) — на ягоныя сродкі была заснавана школа для неграў у горадзе Ньеварк, у штаце Нью-Джэрзі.

11 — 185 гадоў з дня нараджэння В.Р.Бялінскага, расійскага літаратурнага крытыка, публіцыста, рэвалюцыйнага дэмакрата, філосафа.

13 — 105 гадоў з дня нараджэння А.А.Сідарава, мастацтвазнаўца і кнігазнаўца, які даследаваў асаблівасці выданняў Францішка Скарыны, і выдавецкую дзейнасць і спадчыну Пятра Мсціслаўца.

14 — 185 гадоў з дня нараджэння Гарыет Бічэр-стоў, амерыканскай пісьменніцы.
— 165 гадоў з дня нараджэння Вінцэся Каратынскага, беларускага і польскага пісьменніка і журналіста.

15 — 100 гадоў з дня нараджэння П.Г.Каравайчыка, крытыка і літаратуразнаўца.
— 60 гадоў з дня нараджэння Міколы Гіля, пісьменніка і журналіста.
— 60 гадоў з дня нараджэння паэта Івана Маркевіча.

**Падрыхтаваў З.С.**

# Праграма тэлебачання

## Панядзелак, 10 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**
7.30 Ранішні кактэйль.
7.50 Эканамікст. Нерухомасць.
8.00 Фільм-канцэрт.
8.53 Выпускны экзамен па матэматыцы.
9.00 «Бялее ветразь адзінокі». М.ф.
10.20 Мультфільмы.
11.25 «Узнагародзіць (пасмяротна)». М.ф.
12.50 «Сын заваяванай нацыі», «Тэатр — мая работа». Д.ф.
13.30 Фільм-канцэрт.
15.00, 18.50, 0.15 Навіны.
15.15 «Фліпер».
15.40 Мультфільмы.
16.00 Фільм-канцэрт.
16.20 «Сусвет». Н/п тэлечасопіс.
17.25 «Крок».
17.50 Музычны антракт.
18.«Стрэл у сябе». Д.ф.
18.25 Эканамікст. Нерухомасць.
18.35 «3 х 1». Музычная перадача MTV.
19.05 «Крок». Тэлегульня.
19.35 Вяскоўцы.
19.55 «Гэта мы не праходзілі...»
20.10 Люстэрка.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.45 Спартыўны тэлекур'ер.
22.05 «Бязладны рэйс». М.ф.
23.25 Футбол. «Дынама-93» — «Дынама» (Мінск). 2-і тайм.

**ГРТ**
7. 35, 20.45 «Прэзідэнцкія выбары-96».
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.55 Навіны.
8.15 «Сакрэт трапіканкі».
9.05 Што? Дзе? Калі?
10.10 «Два медзведзяняты».
10.30 Адгадай мелодыю.
11.10 Тэлерадыёкампанія «Свет».
14.20 «Рыцар Адважнае Сэрца». Мультсерыял.
14.45 Марафон-15.
15.00 Зорны час.
15.40 «Элен і хлопцы».
16.05 Джэм.
16.30 Сем дзён спорту.
17.20 «Сакрэт трапіканкі».
18.10 Час пік.
18.35 Адгадай мелодыю.
19.05 «Мы». Аўтарская праграма У.Познера.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
21.05 «Вертуальная рэальнасць».
22.05 «Да і пасля...»
22.55 Футбол. Чэмпіянат Еўропы. Перадача з Англіі.

**Канал «Расія»**
6.15 «Дон Кіхот Ламанцкі».
6.45, 7.50, 14.50, 19.35, 21.10, 0.15 Выбары-96.
7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 0.25 Весткі.
7.20 У гэты дзень...
7.30 Дзелавая Расія.
8.05 Вуснамі дзіцяці.
8.35 Маскі-шоў.
9.05 «Санта-Барбара».
13.50 Мультфільм.
14.00 Іваноў, Пятроў, Сідараў і інш.
15.00 Баскетбол. Фінал Чэмпіянату НБА. Перадача з ЗША.
16.20 Там-там навіны.
16.35 Выратаванне-911.
17.25 L-клуб.
18.10 «Галасуй, бо прайграеш».
18.25 Лідэр-прагноз.
19.50 «Санта-Барбара».
20.40 «Даміно» М.Баярскага.
21.30 Футбол. Зборная Галандыі — зборная Шатландыі. У перапынку — Весткі.
23.30 Дзённік кінафестывалю «Кінатаўр».
23.45 «Мір народам». Прэм'ера д.ф.
0.40 Музыка ўсіх пакаленняў.

**Санкт-Пецярбург**
7.00, 23.35 Муз-ТБ. «Галасуй, бо прайграеш».
11.55, 14.55, 15.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55 Інфарм ТБ «Цяпер».
12.05 «Першае каханне».
14.05 «Спякота ў Акапулька».
15.05 «Сказ пра халопа Мікішку». Фільм-балет.
15.50 Стыль жыцця.
16.05 «Прыгоды двух медзведзянятаў». Для дзяцей 1-я ч.
16.25 «Філасофія па Філу».
16.55 Спартыўны агляд.
17.05 Толькі без панікі.
17.30 А.П.Чэхаў. «Твор мастацтва», «У прадвадзіцелькі».
18.05 Гумарыстычная праграма.
18.35 Вялікі фестываль.
19.05 «Першае каханне».
20.05 Выбіраем прэзідэнта. М.С.Гарбачоў.
20.40 Тэлеслужба бяспекі.
21.00 Спорт.
21.05 «Спякота ў Акапулька».
22.05 «На ноч гледзячы». Забаўляльная праграма.
22.20 «Скон». М.ф. 1-я ч.

**НТБ**
17.00 «Сямейка Флінстоўн».
17.30 Футбольны клуб.
18.00, 21.00, 23.00 «Сёння».
18.35 Герой дня.
19.00 Новае кіно. «Уцёкі на край свету». М.ф.
20.40 Голас народа.
21.35 «Доктар Куін, жанчына-лекар».
22.30 Часінка.
23.20 Тэніс у поўнач.

## Аўторак, 11 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**
7.30 Ранішні кактэйль.
7.50 Эканамікст.
8.00, 15.00, 18.50, 24.00 Навіны.
8.15 Аўта-парк.
8.30 «Пяюць сярэбраныя трубы». Фільм-канцэрт.
8.53 Выпускны экзамен па бел. і рус. мовах.
9.00 «Кобра».
9.50 Абібок.
10.20 «Гэта мы не праходзілі...».
10.35 «Кропка, кропка, коска...» М.ф.
11.55 Мультфільм.
12.10 «Тысячагоддзе». М.ф.
15.15 «Фліпер».
15.40 «Усё пра ўсё».
16.05 Мультфільм.
16.20 «Экамір-96». «Горад, які дзіка вырас». Д.ф.
17.20 Урокі Н. Наважылавай.
17.50 Музычны антракт.
18.00 Мультфільм.
18.15 «Будзьце здаровы».
18.25 Эканамікст.
18.35 «3 х 1». Музычная перадача MTV.
19.05 «Кобра».
20.00 «Гомель-96». Вынікі тэлефестывалю, прысвечанага 10-годдзю чарнобыльскай катастрофы.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.55 Музычны антракт.
22.10 «Кахаць па-руску». М.ф.
23.35 Мультфільмы для дарослых.

**ГРТ**
7.30, 20.45 «Прэзідэнцкія выбары-96».
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.20 Навіны.
8.15 «Сакрэт трапіканкі».
9.05 «Вяртанне да вытокаў».
9.45 Смехапанарама.
10.15 Мультфільм.
10.30 Адгадай мелодыю.
11.10 Тэлерадыёкампанія «Свет».
14.20 «Рыцар Адважнае Сэрца».
14.45 Квар'етэ «Вясёлая кампанія».
14.55 Мультытролія.
15.10 Чароўны свет, альбо Сінема.
15.40 «Элен і хлопцы».
16.05 ...Да шаснаццаці і старэй.
16.30 Сем дзён спорту.
17.20 «Сакрэт трапіканкі».
18.10 Час пік.
18.35 Адгадай мелодыю.
19.00 Тэма.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
21.10 Улада і слава: Мікалай II. Фільм «Збаўленая ахвяра».
23.20 Футбол. Чэмпіянат Еўропы.

**Канал «Расія»**
6.15 «Дон Кіхот Ламанцкі».
6.45, 7.50, 14.50, 20.30, 21.10, 23.50 Выбары-96.
7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 24.00 Весткі.
7.20 У гэты дзень...
7.30 Дзелавая Расія.
8.05 L-клуб.
8.50 Кенгуру.
9.10 «Санта-Барбара».
14.00 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
15.00, 16.20 Хакей. Кубак Стэнлі.
17.15 Тэлечасопіс «Здароўе».
17.25 Прасцей простага.
17.55 Нічога, акрамя...
18.10 «Галасуй, бо прайграеш».
18.25 Футбол. Чэмпіянат Еўропы. Зборная Італіі — зборная Расіі. У перапынку — Весткі.
20.35 Адзін дзень з Ю.Лужковым.
21.30 «Санта-Барбара».
22.25 Ціхі дом.
23.20 «Савецкая жанчына». Прэм'ера д.ф.
0.15 Гарачая дзесятка.
1.10 «Музыка ўсіх пакаленняў».

**Санкт-Пецярбург**
7.00, 24.00 Муз-ТБ. «Галасуй, бо прайграеш».
11.55, 14.55, 15.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55 Інфарм ТБ «Цяпер».
12.05 «Першае каханне».
14.10 «Спякота ў Акапулька».
15.05 Авертайм.
15.20 Гумарыстычная праграма.
15.50 Стыль жыцця.
16.05 «Прыгоды двух медзведзянятаў». 2-я ч.
16.30 «Філасофія па Філу».
16.55 Спартыўны агляд.
17.05 Толькі без панікі.
18.35 Вялікі фестываль.
19.05 «Першае каханне».
20.05 Выбіраем прэзідэнта. А.-Г.-М.Тулеў.
20.40 Тэлеслужба бяспекі.
21.00 Спорт.
21.10 «Спякота ў Акапулька».
22.05 «На ноч гледзячы».
22.20 Платная палітычная рэклама. В.А.Брынцалаў.
22.45 «Скон». М.ф. 2-я ч.

**НТБ**
17.00 «Сямейка Флінстоўн».
17.30 «ДЭЗЗЛ». 2-я ч.
18.00, 21.00, 23.00 «Сёння».
18.35 Герой дня.
19.00 «Золата партыі». М.ф.
20.35 Голас народа.
21.35 «Доктар Куін, жанчына-лекар».
22.30 Часінка.
23.20 Спартыўныя танцы.
23.50 Меламанія: «Рой Орбісан і яго сябры».

